# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 34 (420) — Нядзеля, 7 верасьня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12


# Пэкін ня ёсьць больш сатэлітам Масквы

Сьвет сочыць з напружаньнем за выпадкамі ў калідоры Фармозы й чакае канчальнае разьвязкі ў страху й няпэўнасьці: прывядуць яны да камуністычнай інвазіі Фармозы й тым самым да выбуху збройнага канфлікту між камуністычным Кітаем і Амэрыкай, ці, наадварот, Пэкін, пераканаўшыся аб наважанасьці Амэрыкі датрымаць ейныя забавязаньні, дадзеныя Чан-Кай-Шэку, будзе змушаны часова адмовіцца ад сваіх агрэсыўных намераў. Гэтае пытаньне, у сваю чаргу, родзіць іншае, яшчэ больш грознае: ці ў выпадку першым, калі дойдзе да збройнага канфлікту між Кітаем і Амэрыкай, будзе ён зьлякалізаваны, ці перародзіцца ў трэйцюю сьветавую вайну? Гэта апошняе будзе, рэч ясная, залежыць вылучна ад таго, ці ў выпадку збройнага зудару між Кітаем і Амэрыкай у ваенны канфлікт актыўна й беспасярэдня ўмяшаецца й Савецкі Саюз, ці абмяжуецца толькі да маральнага й палітычнага падтрыманьня свайго саюзьніка ды ўспамаганьня яго сваёй зброяй і «ахвотнікамі»?

Каб разважыць, як сьлед, усе гэтыя скамплікаваныя пытаньні, неабходна кінуць вокам на кітайска-савецкія ўзаемадачыненьні ў недалёкай мінуласьці й сучаснасьці ды вызначыць ролю, якую ў камуністычным блёку дзяржаваў і ў сьветавым камуністычным руху адыгрывае сяньня чырвоны Кітай.

Камуністычная Масква мае перад сабой дзьве галоўныя мэты. Гэта правядзеньне сьветавай пралетарскай рэвалюцыі дзеля запанаваньня ў цэлым сьвеце камуністычнае сыстэмы — з аднаго боку, і загарантаваньне кіраўнічае ролі Масквы ў сьветавым камуністычным руху — з другога. Першая мэта выплывае зь ідэялягічнае дактрыны камунізму, а другая мае свае глыбокія карэньні ў традыцыйным расейскім імпэрыялізьме.

Выходзячы з гэтых прынцыпаў, незраўнаны стратэг расейскага камунізму Сталін ня вельмі жадаў у свой час перамогі камунізму ў Кітаі, баючыся, што гэтая вялізарная краіна, стаўшыся камуністычнай, можа не падпарадкавацца Маскве й пайсьці собскай дарогай або будзе дамагацца супольнага з Масквой кіраўніцтва сьветавым камуністычным рухам. Таму Сталін сьведама імкнуўся стварыць такую сытуацыю, пры якой камуністычны Кітай ня змог-бы стацца сьветавай магутнасьцяй. Пазьней зь югаслаўскіх жаролаў стала ведамым, што ў 1946-47 гг. Сталін намагаўся схіліць кітайскіх камуністых спыніць наагул змаганьне супраць Чан-Кай-Шэка. Толькі дзякуючы ўпорыстасьці Мао-Тсэ-Тунга камунізм у Кітаі дасягнуў поўнае перамогі. Але Сталін пастараўся змучанаму й вычарпанаму пераможніку накінуць такія ўзаемныя дагаворы й забавязаньні, якія стваралі трывалую гаспадарскую, палітычную й мілітарную залежнасьць Кітаю ад Масквы.

Сталінскі спадкаемнік Хрушчоў, шукаючы апорышча ў камуністычным Кітаі дзеля замацаваньня свае ўлады, ня толькі зьліквідаваў савецкія ваенныя базы ў Порт Артуры, але й наагул ахвотна разьвязаў на карысьць Кітаю накінутыя яму Сталінам дагаворы й забавязаньні. Першая паездка Хрушчова й Булганіна ў Пэкін восеньню 1954 году сталася нагляднай азнакай новага курсу кітайска-савецкіх узаемадачыненьняў.

Кітай ёсьць і доўгі час яшчэ будзе ў гаспадарскай залежнасьці ад Савецкага Саюзу. З кажнага гледзішча моцна адсталая краіна, якой ёсьць Кітай, распачала прысьпешаную індустрыялізацыю, што вымагае вялізарных капіталаў. Здабыць іх шляхам зьніжэньня кансумпцыйнае ўзроўні собскага насельніцтва, як гэта рабіў Савецкі Саюз у пэрыяд сваей індустрыялізацыі, няма магчымасьці, бо кансумпцыйная ўзроўня кітайскага насельніцтва і так вельмі нізкая, а з другога боку стаіць гэтаму на перашкодзе высокі натуральны прырост насельніцтва ў Кітаі. Таму разбудова кітайскай індустрыі адбываецца галоўна за кошт Савецкага Саюзу, гаспадарская залежнасьць ад якога цягне за сабой натуральным парадкам і залежнасьць палітычную.

Але Кітай гэта вялікая краіна зь вялізарнай колькасьцю насельніцтва. Калі пры жыцьці Сталіна прынамся ў сваей вонкавай палітыцы быў ён савецкім сатэлітам у поўным значаньні гэтага слова, дык пры сталінскіх спадкаемніках, вызваліўшыся ад нявыгадных забавязаньняў перад Масквой, пачаў шыбка ўнезалежнівацца.

Ужо восеньню 1956 году камуністычны Кітай пачуўся на толькі дужым і самастойным, што ў канфлікце між Хрушчовам і Гамулкам Мао-Тсэ-Тунг выступіў у ролі мэдыятара і абароньніка «польскай дарогі да сацыялізму». Мэдыятарская роля чырвонага Кітаю сталася яшчэ больш выразнай, калі ў студзені 1957 году кітайскі прэм'ер Чу-Эн-Ляй наведаў Маскву й Варшаву з мэтаю прымірэньня гэтых краінаў. Гэта быў першы выпадак ад часу татарскіх нападаў, калі ўсходняазіяцкая дзяржава выступіла ў ролі важнага палітычнага фактару ў эўрапэйскіх пытаньнях.

У канцы 1956 і напачатку 1957 году Мао-Тсэ-Тунг стаў на рэвізіяністычныя пазыцыі супраць сталінскага курсу й абвесьціў у сябе ў Кітаі г. зв. дактрыну «ста красак», што могуць свабодна расьцьвітаць між сабою. Ад гэтай дактрыны быў змушаны, аднак, хутка адмовіцца й вярнуцца да артадаксыйнай догмы сталінскага камунізму. Гэты хуткі паварот быў падыктаваны дзьвюма галоўнымі прычынамі. Злагаджэньне палітычнага курсу пацягнула за сабой далёка йдучыя рэвізіяністычныя тэндэнцыі ўнутры краіны, галоўна сярод інтэлектуалістых і студэнцкай моладзі, што ў далейшым выніку падміноўвала дыктатуру ў Кітаі. З другога боку, Мао-Тсэ-Тунг пабачыў, што лібэралізацыя палітычнага курсу ў усходняэўрапэйскіх сатэлітаў і аслабленьне іхнае залежнасьці ад маскоўскага цэнтру змушае Савецкі Саюз ня толькі зьменшыць эканамічную эксплятацыю гэтых краінаў, але яшчэ навет самому даваць ім гаспадарскую помач за кошт помачы, якая ішла ў чырвоны Кітай.

Гэта ўсё й спрычынілася да таго, што Пэкін цяпер зьяўляецца зацятым ворагам рэвізіянізму ў камуністычным лягеры, а ў міжнародных дачыненьнях старонькам завайстрэньня халоднай вайны й як найбольшай ізаляцыі ад Захаду. Гэтыя свае палітычныя тэндэнцыі змог чырвоны Кітай накінуць і Савецкаму Саюзу. Старпэдаваньне Мао-Тсэ-Тунгам канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні, якой вельмі жадаў Хрушчоў, было гэтага беспасярэднім вынікам.

Заходняя прэса правільна адцеміла, што апошняе наведаньне Хрушчовам Пэкіну было свайго роду камуністычнай канфэрэнцыяй «на найвышэйшай узроўні» й устанаўленьнем «калектыўнага кіраўніцтва» Кітаю й Савецкага Саюзу сьветавым камуністычным рухам. Гэтае спатканьне Мао-Тсэ-Тунга з Хрушчовам мела большае значаньне чымся зьезд 12-ёх камуністычных партыяў у Маскве падчас 40-ой гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі. Тады Мао-Тсэ-Тунг яшчэ афіцыяльна заяўляў, што правадырства камуністычным блёкам належыцца Савецкаму Саюзу. Камунікат із апошняга спатканьня з Хрушчовым у

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Ім ёсьць што хаваць...

Як і кажны год, сёлета мільёны турыстых у вольным сьвеце наведваюць іншыя краіны і праводзяць у іх свой адпачынак. У гэтым годзе, асаблівым магнэсам для наведвальнікаў зьяўляецца Брусэльская Сусьветная Выстаўка: ужо да гэтага часу яе наведала каля 30 міліёнаў людзей. Мяркуюць, што да заканчэньня Выстаўкі, агульны лік наведвальнікаў перавысіць 50 міліёнаў. Спаміж гэтых наведвальнікаў — чужынцы з усіх канцоў сьвету: з блізкіх і далёкіх краінаў Эўропы, з Азіі, Афрыкі, Паўночнай і Паўдзённай Амэрыкі, з Аўстраліі, Новай Зэляндыі.

Уся гэтая міліённая маса чужынцаў наведае, зразумела, ня толькі Брусэльскую Выстаўку. Карыстаючы з нагоды, яны пабачаць ня толькі Бэльгію, але й іншыя краіны. На сваім шляху яны не сустракаюць ніякіх перашкодаў: могуць ехаць, куды хочуць, і аглядаць, што ім падабаецца. Праўда, нешматлікія турыстыя з Савецкага Саюзу гэтым пахваліцца ня могуць. Перашкоды ім ставяць, крый Божа, ня ўлады ў краінах вольнага сьвету, а савецкія ўлады — у выглядзе адмыслова прыстаўленых праваднікоў ці кіраўнікоў групаў. Як правіла, нікому з савецкіх турыстых ад групы адлучацца не дазваляецца, і ім паказваюць толькі тое, што пасуе служачым дзяржбясьпекі, пераапранутым за праваднікоў. Відаць баяцца, каб падсавецкім людзям зашмат не спадабаўся «гнілы» Захад...

А як-жа выглядае справа з замежнымі турыстымі ў Савецкім Саюзе? Яшчэ ня так даўно, дастаць турыстычную візу ў Савецкі Саюз было бадай немагчыма. Апошнім часам з гэтым крыху лягчэй, але справы гэта шмат не мяняе. Замежны турысты, апынуўшыся ў СССР, адразу пападзе пад строгі кантроль адпаведных урадавых органаў. Існуе цэлы шэраг розных абмежаваньняў, якіх турысты перакрочыць ня можа, пад пагрозай быць проста выкінутым із Савецкага Саюзу. Да гэтага, ім няўпынна «апякуюцца» працаўнікі славутага «Інтурыста», якія — і гэта нікому не сакрэт — зьяўляюцца тымі-ж служачымі дзяржбясьпекі. Гэтыя праваднікі дапілноўваюць, каб замежны турысты не пабачыў лішняга. Няма навет мовы аб тым, каб такі турысты мог вырабіць сабе хоць крыху аб'ектыўны вобраз умоваў жыцьця насельніцтва Савецкага Саюзу ці хоць-бы аднаго зь ягоных народаў. Да гэтага, савецкія ўлады асабліва неахвотна даюць візы чужынцам, якія ведаюць хоць адну з моваў народаў СССР. Такім чынам, бальшыня замежных турыстых ужо з гэтае прычыны ня можа мець беспасярэдняга кантакту з грамадзянамі Савецкага Саюзу, і мусіць верыць на слова афіцыйна прыстаўленым да іх перакладчыкам. А ці ім можна верыць на слова, аб гэтым гаварыць лепш ня будзем.

Усё-ж некаторым замежным турыстым удаецца абыйсьці «апякуноў» зь «Інтурыста», і яны маюць адносную свабоду руху. Ці тады яны могуць ехаць, куды хочуць? Нічога падобнага! У Савецкім Саюзе ёсьць 13 гэтак званых «забароненых зонаў» куды ўяжджаць замежным турыстым не дазваляецца. Гэтыя «забароненыя зоны» абыймаюць прыблізна 6 міліёнаў квадратных кілямэтраў, гэта значыць амаль **адну трэцюю** тэрыторыі СССР! Замежны турысты ня можа, прыкладам, наведаць Літву, Латвію ці Эстонію; ня можа наведаць некаторых раёнаў Заходняе Беларусі, сумежных з Польшчай. Пры гэтым варта прыгадаць цікавы выпадак: у пасьляваенныя гады некаторыя заходнія краіны стараліся навязаць дыпляматычныя сувязі з БССР і УССР. Неаднаразовыя захады гэтых краінаў Масква пакідала без адказу. Скантактавацца-ж беспасярэдня зь Міністэрствамі Замежныхі Справаў гэтых рэспублікаў заходнія дыпляматычныя місіі не маглі, бо сталіцы гэтых на паперы сувэрэнных дзяржаваў ляжалі... у забароненай зоне!

Не выпадкова, што бальшыня гэтых забароненых зонаў — гэта ўскраіны СССР, заселеныя нерасейскімі народамі, якія былі сілком — агнём і мячом — далучаныя да Савецкага Саюзу. Зусім зразумела, што бальшавіцкія панявольнікі ня хочуць дапусьціць да кантакту гэтых народаў з замежнымі турыстымі — прадстаўнікамі вольнага сьвету. Гэтым-жа тлумачацца і дарэмныя высілкі некаторых краінаў Захаду навязаць дыпляматычныя сувязі, прыкладам, з БССР. Праступнік неахвотна дапушчае сьветкаў на месца свайго злачынства... Гэта-ж датычыцца і месцаў, дзе разьмешчаныя канцлягеры, якіх, паводля савецкай прапаганды, няма.

Бальшавіцкім валадаром ёсьць што хаваць...

**У. Н.**

# Хто топіцца - за брытву хопіцца

Эра імпэрыялізму і каляніялізму адыходзіць у мінулае. З гэтага здае справу кажны, хто ўмее цьвяроза глядзець на йснуючы й мінулы стан рэчаў, і цьвяроза ацэньваць рух ідэяў і іхны ўплыў на фармаваньне новых узаемадачыненьняў паміж народамі. Каляніяльныя й залежныя народы Азіі й Афрыкі, якія да гэтага часу не здабылі яшчэ поўнай нацыянальнай незалежнасьці, стаяць на парозе свайго нацыянальнага вызваленьня. Гэты рух змушае сяньня ўсьведаміць існаваньне натуральнага, унівэрсальнага й абсалютнага закону аб працэсе разьвіцьця народаў і нацыяў. Мы зьяўляемся сьветкамі таго, што ўсе народы, бяз выключэньня, — малыя ці вялікія. зь меншай ці большай ступеняй разьвіцьця, белыя, жоўтыя ці чорныя — раней ці пазьней дамагаюцца свайго права на нацыянальнае самавызначэньне, дзяржаўную незалежнасьць, або калі ўступаюць у які-небудзь саюз, то толькі на прынцыпе поўнай роўнасьці.

Яшчэ да нядаўна мала хто, хіба, думаў, што гэты рух здолее пранікнуць у Чорную Афрыку, але, для прыкладу, апошняе афрыканскае падарожжа прэм'ера Францыі дэ-Голя дало магчымасьць пераканацца, што й нэгры ўжо ўва ўвесь голас гавораць аб незалежнасьці. І нацыянальнае адраджэньне й эманцыпацыя адсталых і паняволеных народаў стаецца фактам, няўхільнасьць якога ўсё больш і ясьней усьведамляюць палітычныя дзеячы Захаду і адпаведна перафармоўваюць сваю палітыку на гэтым адрэзку. Аб гэтым нядвузначна сьветчаць і заявы кіраўнікоў заходніх дзяржаваў у сувязі з апошнімі падзеямі на Блізкім Усходзе, дзе пытаньне арабскага нацыяналізму паўстала ўва ўсёй сваёй вялічыні й складанасьці. Заявы прэзыдэнта Айзэнгаўэра і міністра замежных справаў Вялікабрытаніі Лёйда на нядаўнай надзвычайнай сэсіі Генэральнай асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў аб тым, што гэтыя краіны падтрымоўваюць нацыянальныя імкненьні Арабаў, паказваюць разуменьне палітыкамі Захаду важнасьці нацыянальнай праблемы, і ня толькі ў арабскім сьвеце.

Інакш і быць ня можа. Такую пазыцыю зойме кожны, хто здольны здабыцца хоць на мінімум пашаны да натуральных праваў народаў, каму не абыякавае існаваньне або неіснаваньне тае ці іншае нацыі, хто шануе прынцыпы нашай цывілізацыі, якія абвяшчаюць свабоду й роўнасьць усіх людзей і народаў. Вольны сьвет, калі яшчэ й мае якія-небудзь хібы, бязупынна прагрэсуе ў тым напрамку, каб ягонаму назову поўнасьцю адпавядаў і зьмест.

Сям-там, аднак, сустракаюцца рэшткі закасьцянелых абаронцаў старых імпэрыялістычных парадкаў, — рэшткі, якія, дзесяцігодзьдзямі жывучы ў свабодзе і дэмакратыі, ды карыстаючы з усіх дабрадзействаў такіх умоваў, ня здолелі зрабіць сваім здабыткам тэй жыцьцёвай праўды, зь якой не разьмінаецца ніводзін нармальны чалавек. Характэрны прыклад такой закасьцянеласьці — розныя «дзеячы» із старой і новай расейскай эміграцыі. Сваю бацькаўшчыну яны ня могуць уявіць інакш, як толькі вялікай непадзельнай імпэрыяй. Для іх Расея гэта наагул паняцьце, якое ня мае ніякіх акрэсьленых граніцаў. Яна можа заўсёды ў бесканцовасьць пашыраць свае валоданьні, падпарадкоўваючы ўсё іншыя народы, але ніколі звужацца — прызнаваць паняволеным народам незалежнасьць. У гэтым пункце і белы, і чырвоны расейскі імпэрыялізм поўнасьцю пакрываюцца. Якія-небудзь зрухі ў бок нацыянальнага вызваленьня нерасейскіх народаў выклікаюць у іх аднолькавыя пратэсты, абгрунтаваныя амаль дакладна тымі самымі аргумантамі. Прыгадаем для прыкладу рэакцыю савецкай і расейскай чорнасоценскай прэсы на сёлетняе сьвяткаваньне ў Злучаных Штатах саракавых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, аб чым ужо пісалася ў «Бацькаўшчыне».

Нацыянальна-вызвольны рух характэрны ня толькі для некамуністычнага сьвету. Зь няменшай сілай ён нуртуе ў камуністычным блёку і ў самым Савецкім Саюзе. Ня гледзечы на тое, што тут ён брутальна здушваецца, у першы падходны мамэнт працэс распаду імпэрыяў і нацыянальнага вызваленьня народаў не абміне й бальшавіцка-расейскай імпэрыі. Гэта аднолькава трывожыць і бальшавікоў, і расейскіхі белых імпэрыялістых. Гэтыя апошнія пачынаюць асабліва біць трывогу, калі за прынцып нацыянальнага вызваленьня народаў пачалі выказвацца й кіраўнікі заходніх вялікіх дзяржаваў. Доказам гэтай трывогі паслужыць апублікаваная ў ньюёрскай газэце «Новое Русское Слово», за 20-га жнівеня гэтага году, рэзалюцыя каля двух дзесяткаў розных існуючых і няйснуючых, пераважна манархістычных, расейскіх арганізацыяў, ськіваваная на адрас прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра. Уся рэзалюцыя — гэта тыповы прыклад бязглузьдзіцы. Ейны пачатак паказвае, што яна была прынятая ў сувязі з плянаванай сустрэчай кіраўнікоў урадаў для разгляду блізкаўсходняга крызісу і мела на мэце, быццам-бы, папярэдзіць прэзыдэнта Злучаных Штатаў аб тым, што яго Хрушчоў можа ашукаць. Далей гаворыцца аб прыязьні расейскіх імпэратараў да ЗША, аб расейскім нацыяналізьме (чытай: вялікадзяржаўніцкім шавінізьме) і, нарэшце, стаўляецца прэзыдэнту Амэрыкі дамаганьне аб «неабходнасьці для ЗША зьмяніць сваю палітыку ў дачыненьні да расейскага пытаньня й раз на заўсёды адмовіцца ад падтрымкі сэпаратысцкай прапаганды».

Вось якую параду даюць расейскія чорнасоценцы прэзыдэнту ЗША. У мамэнт, калі бальшавікі, спэкулюючы на нацыянальных і антыкаляніяльных пачуцьцях Арабаў, правакуюць антызаходнія настроі, Амэрыканцы, паводле расейскай чорнай сотні, павінны дэкляраваць сваю прыязьнь і падтрымку «єдіной неделімой» расейскай імпэрыі, ды перашкаджаць арганізацыям нерасейскіх народаў у вольным сьвеце ў іхнай працы. Наўрад ці такое бязглуздае пасуленьне зьверне на сябе чыюсьці ўвагу. Яно можа разглядацца толькі як доказ таго, што той, хто топіцца — і за брытву хопіцца.

**Ю. Дубовік**

# Праект новай францускай канстытуцыі

**Ад Рэдакцыі:**

Савецкая прапаганда войстра крытыкуе праект новай францускай канстытуцыі, запрапанаваны ўрадам дэ Голя, «баронячы» францускі народ і францускую дэмакратыю перад загрозай нейкага ўяўленага «фашызму».

Уважаем мэтазгодным пазнаёміць чытачоў з праектам гэтай канстытуцыі.

☆

28-га верасьня 1958-га году ў Францыі павінен адбыцца ўсенародны плебісцыт што да новай францускай Канстытуцыі, прапанаванай генэралам дэ Голем. Кампанія за або супраць прапанаванай Канстытуцыі пачнецца 7-га верасьня ў звычайным выбарчым парадку: партыям будзе дадзенае права разьвешваць свае плякаты і выступаць ува ўрадавай радыястанцыі. Выбаршчыкі атрымаюць па два бюлетэні з магчымымі адказамі: «але» або «не».

Пры існуючай да гэтага часу Канстытуцыі Чацьвертай Францускай Рэспублікі ўся ўлада практычна знаходзіцца ў руках Ніжэйшай Палаты Парляманту; урады маглі ськідацца вельмі часта і прэм'ер і ягоны кабінэт ня былі здольныя пасьлядоўна праводзіць сваю палітыку ў важнейшых пытаньнях.

Новы праект Канстытуцыі мае 14 разьдзелаў і 75 параграфы. Самымі галоўнымі рэформамі зьяўляюцца наступныя:

**Паўнамоцтвы прэзыдэнта Рэспублікі.**

У Пятай Рэспубліцы прэзыдэнт будзе выбірацца на сямігадовы тэрмін вялікай групай адмысловых выбаршчыкаў, лік якіх будзе дасягаць 100 тысяч, і ў склад якіх увойдуць сябры Генэральных Радаў (па адному на кажны правінцыяльны дэпартамант), сябры сходаў заморскіх тэрыторыяў, дэлегаты ад гарадзкіх Радаў і сябры абедзьвюх Палатаў Парляманту.

Пры існуючай Канстытуцыі прэзыдэнта Рэспублікі выбіралі толькі сябры Парляманту.

Прэзыдэнт прызначае прэм'ера, а таксама міністраў паводля рэкамандацыі прэм'ера. Да гэтага часу прэзыдэнт прызначаў прэм'ера толькі пасьля падрабязнага абмеркаваньня на нарадзе зь лідэрамі партыяў.

Прэзыдэнт мае права распусьціць Парлямант пасьля нарады з прэм'ерам і старшынямі абедзьвюх Палатаў Парляманту, але не раней як праз год пасьля выбраньня Парляманту.

Прэзыдэнт мае права карыстацца выключнай уладай ў выпадку неабходнасьці забясьпечыць незалежнасьць нацыі, непадзельнасьць ейнай тэрыторыі, або ў выпадку, калі выкананьне міжнародных забавязаньняў дзяржавы знаходзіцца пад беспасярэдняй і паважнай пагрозай. Права прэзыдэнта ўжыць надзвычайныя захады значна пашыранае ў параўнаньні зь існуючым палажэньнем.

Прэзыдэнт ня толькі сьцьвярджае сваім подпісам міжнародныя ўмовы, але й сам вядзе перамовы. Апошнія дадаткі зьяўляюцца зусім новымі.

Калі прэзыдэнт ня можа зь нейкіх прычынаў выконваць сваіх абавязкаў, яго заступае старшыня Вышэйшай Палаты Парляманту. Цяпер заступнікам прэзыдэнта ўважаецца старшыня Ніжэйшай Палаты.

Прэзыдэнт можа паставіць які-небудзь законапраект на ўсеагульнае народнае галасаваньне, у выпадку, калі гэтага ад яго дамагаецца ўрад або сумесна абедзьве Палаты Парляманту.

**Паўнамоцтвы ўраду і Парляманту**

Таксама, як і было да гэтага часу, ўрад зьяўляецца адказным перад Нацыянальным Сходам (Ніжэйшай Палатай).

У будучыні Парлямант будзе зьбірацца на максімум 5 з палавінай месяцаў, замест існуючага цяпер мінімуму 7-мі месяцаў.

Адказныя асобы, уключаючы старшыню Ніжэйшай Палаты, выбіраюцца на ўвесь тэрмін дзеяньня дадзенай інстанцыі, а не штогадова, як гэта было да гэтага часу.

Парлямант ухваляе толькі найбольш істотныя і асноўныя законы, уключаючы законы адносна бюджэту, грамадзянскіх свабодаў, крымінальнага кодэксу, палажэньня судзьдзяў, агульных прынцыпаў асьветы й сацыяльнага забясьпечаньня.

Парлямант можа ськінуць урад толькі шляхам фармальнага выказаньня недаверу. Галасуючымі супраць ураду ўважаюцца толькі тыя, хто падае свой голас за выказаньне недаверу; усе астатнія сябры парляманту, навет калі яны толькі ўстрымоўваюцца ад галасаваньня, ўважаюцца галасуючымі ў карысьць ураду. Гэты вотум недаверу можа быць прыняты толькі бальшынёй сяброў Нацыянальнага сходу, гэта значыць мінімум палавіны галасоў плюс адзін.

Сярод палажэньняў, якія рацыяналізуюць парляманцкую працэдуру, ёсьць параграф, паводле якога ўрадавыя законапраекты павінны абмяркоўвацца ў першую чаргу, а колькасьць парляманцкіх камісіяў, што разглядаюць законапраекты да пачатку дэбатаў у парляманце, зьмяншаецца з 21 на 6.

Сябра парляманту, прызначаны міністрам, павінен скласьці свае парляманцкія паўнамоцтвы.

**Узаемадачыненьні з заморскімі тэрыторыямі**

Новая Канстытуцыя кладзе асновы для стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы. У праекце Канстытуцыі гаворыцца: «Паміж Францускай Рэспублікай і народамі заморскіх тэрыторыяў, якія шляхам галасаваньня тэрытарыяльных сходаў, выкажуць на гэта сваё пажаданьне, ствараецца Фэдэрацыя. Сябры фэдэрацыі карыстаюцца аўтаноміяй і свабодна разьвязваюць свае нутраныя справы. Кампэтэнцыя Фэдэрацыі пашыраецца на замежную палітыку, абарону, грашовую сыстэму, супольную гаспадарчую і фінансавую палітыку, кантролю над выкарыстоўваньнем стратэгічна важнай сыравіны, а таксама на кантролю над правасудзьдзем і вышэйшай асьветай.»

Заморскім тэрыторыям даецца выбар паміж існуючым палажэньнем (абмежаванай аўтаноміяй), далучэньнем іх, як дэпартамантаў, у склад Францускай Рэспублікі, або ўваходам у склад Фэдэрацыі, як зусім аўтаномных сяброў. Цяпер бальшыня заморскіх тэрыторыяў Афрыкі мае напоўаўтаномны статус. (Асаблівай пастановы аб Альжыры няма, бо ён уважаецца часткай францускай мэртаполіі, і ня можа стацца асобнай тэрыторыяй, а тым больш сябрам Фэдэрацыі.

Прэзыдэнт рэспублікі таксама зьяўляецца прэзыдэнтам Фэдэрацыі.

У канцы, у праекце Канстытуцыі ёсьць адна зусім новая ідэя. Тым дзяржавам, якія хочуць весьці сваё культурнае жыцьцё сумесна з Францыяй, прапануецца «супольнасьць свабодных народаў». Гэта гучыць як зварот да краінаў Індакітаю, Ляосу, Камбоджы і Паўдзённага Ветнаму, Тунісу і Марока, якія раней знаходзіліся пад францускім пратэктаратам, а цяпер сталіся незалежнымі.

У першым параграфе новай Францускай Канстытуцыі адзначаецца, што Францыя зьяўляецца «непадзельнай, сьвецкай, дэмакратычнай і сацыяльнай рэспублікай». Нацыянальнай эмблемай застаецца трох каляровы сьцяг, нацыянальным гімнам — Марсэльеза. Дэвіз Рэспублікі застаецца той-жа самы: «Свабода, роўнасьць, братэрства».

Як бачым з вышэйпададзенага праекту новай францускай Канстытуцыі, там няма ніякіх абмежаваньняў свабоды й дэмакратыі, і ні сьледу фашызму.

(Паводля Інф. Бюл. «Р. В.»)

# Ня куецца, а плешчацца

Каб адвесьці ўвагу насельніцтва ад цяжкага жыцьця, у савецкай прэсе штодзённа зьмяшчаюцца бадзёрыя паведамленьні аб сумлеўных посьпехах разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў калгасах і саўгасах. Каб падняць настрой сярод калгасьнікаў, сам Хрушчоў развозіць ордэны й мэдалі перадавіком сельскай гаспадаркі. Гэты «гонар» Хрушчоў зрабіў Беларусі ў студзені сёлета. Толькі нядаўна Хрушчоў «ашчасьлівіў» сваёй візытай суседнюю Смаленскую вобласьць. На ўрачыстым паседжаньні Смаленскага Абкому КПСС і абласнога Савету дэпутатаў працоўных, прысьвечаным ўзнагародзе вобласьці ордэнам Леніна, Хрушчоў выступіў зь вялікай прамовай. Ён паведаміў, што ў вобласьці 2.862 перадавікі сельскай гаспадаркі ўзнагароджаны савецкім урадам ардэнамі й мэдалямі, а адзінаццаць чалавек атрымалі годнасьць гэроя сацыялістычнай працы.

Хрушчоў не абмінуў і кукурузы. Дзеля большай пераканальнасьці ў магутных якасьцях кукурузы, Хрушчоў прывёз у Смаленск трохмэтровае кукурузнае сьцябло, на якім было два кіяхі. Ён заклікаў калгасьнікаў дабіцца вырошчваньня такой вялічыні кукурузы і ў Смаленшчыне. Хрушчоў не забыўся расказаць, што будучы на працы ў шахтах, ён у царскія часы сустракаўся із смаленцамі, якія расказвалі пра цяжкае жыцьцё. «Цяжка жылі сяляне Смаленскай губэрні», — адзначыў Хрушчоў. Аднак паводля цьверджаньня Хрушчова, у Смаленшчыне й да гэтага часу ня выкарыстаныя ўмовы, быццам створаныя для сельскай гаспадаркі кастрычніцкай рэвалюцыяй. Выявілася, што цяпер ў саўгасах і калгасах вобласьці ў сярэднім прыпадае на сто гэктараў сельскагаспадарскіх зямель толькі тры з паловай каровы. З прычыны недахопу ўгнаеньня ўраджаі на Смаленшчыне нізкія.

Каб стварыць уражаньне аб некаторых посьпехах павялічэньня вытворчасьці сельскагаспадарскіх прадуктаў у калгасах і саўгасах савецкі урад прымушаны імпартаваць з замежных краінаў прадукты. Аб гэтым красамоўна сьветчаць зьвесткі, паказаныя ў павільёне Аргентыны на сусьветнай выстаўцы ў Бруксэлі. У вывазе з Аргентыны мяса, скураў, воўны й сыру Савецкі Саюз займае другое месца. Вялікую колькасьць прадуктаў жывёлагадоўлі Савецкі Саюз закупляе таксама ў Канадзе, Даніі й іншых краінах. Зьвесткі аб імпарце прадуктаў харчаваньня трымаюцца ў сакрэце.

Каб павялічыць вытворчасьць мяса ў калгасах і саўгасах, робіцца націск на разьвіцьцё сьвінагадоўлі. Аднак у гэтай галіне посьпехаў амаль няма аніякіх. Спашлемся на факты. На чэрвеньскім пленуме ЦК КП Беларусі сёлета сакратар ЦК Мазураў адзначыў, што калгасы й саўгасы па пляну павінны адкарміць адзін мільён дзьвесьце тысяч галоў сьвіней. Па падліку ў першым паўгодзьдзі зьнята з адкорму й здадзена дзяржаве толькі 335 тысяч сьвіней. Такім чынам за паўгода плян адкорму сьвіней выкананы толькі на 28 працэнтаў. Нельга не адзначыць, што сярэдняя вага гэтых адкормленых сьвіней складае толькі 50—60 кіляграмаў.

У сваім дакладзе Мазураў упікае калгасных і саўгасных кіраўнікоў, што яны знаходзяцца ў палоне мінулых прывычак і не выкарыстоўваюць «прагрэсыўных мэтадаў сьвінагадоўлі», чым і тлумачацца слабыя вынікі адкорму сьвіней. Мазураў раіць «шырока практыкаваць адкорм сьвіней на пасевах бульбы». Гэты бязглузды спосаб раіў ужываць усёзнаўца — Хрушчоў. Гэта-ж не прагрэс, а няўдалая выдумка — выпускаць сьвіней на пасевы бульбы.

Мазураў лічыць, што ў калгасах і саўгасах слаба ўжываецца адкорм сьвіней на бэкон. Дзеля большай пераканальнасьці ў перавагах бэконнага адкорму Мазураў спаслаўся на буйны калгас, які атрымаў за адкормленыя на бэкон сьвіньні 176 тысяч рублёў, або на 55 тысяч рублёў больш, калі-б калгас здаў сьвіней мяснoй кандыцыі.

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

# Пэкін ня ёсьць больш сатэлітам Масквы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

Пэкіне ўжо не гаворыць аб «правадырстве», але аб «братняй роўнасьці» Кітаю й Савецкага Саюзу. Такім чынам манаполь Масквы на кіраўніцтва камуністычным блёкам дзяржаваў і сьветавым камуністычным рухам скончыўся.

Пры гэткай вось сытуацыі камуністычны Кітай пачаў бесьперапынна артылерыйскі абстрэл прыбярэжных абтокаў Кімой і Матсу, якія належаць да нацыянальнага Кітаю Чан-Кай-Шэка, і паўтараць пагрозы аб «вызваленьні» ня толькі гэтых абтокаў, але й Фармозы. Гэты абстрэл, як ведама, цягнецца бесьперапынна ўжо некалькі тыдняў, апрача таго адбыліся ўжо баёвыя схваткі між ваеннай флётай камуністычнага й нацыянальнага Кітаю, а так-жа й паветраныя баі. Камуністыя сканцэнтравалі на сваім паўдзённым узьбярэжжы насупраць Фармозы вялікія сілы, якія ацэньваюцца на 250 000 жаўнераў, а так-жа моцныя адзінкі дэсантнае флёты.

Амэрыка, якая спачатку ня прывязвала асаблівага значаньня да абстрэлу Матсу і Кімой, цяпер расцэньвае сытуацыю, як сур'ёзную. Амэрыканская 7-ая ваенная флёта, што стацыянуе ў раёне Фармозы, знаходзіцца ўсьцяж у баёвай гатоўнасьці й папаўняецца новымі баёвымі адзінкамі. Апрача гэтага, часьць 4-ай амэрыканскай ваеннай флёты, якая знаходзіцца ў усходнім басэйне Міжземнага мора, адплыла ў раён Фармозы.

Амэрыка вуснамі дзяржаўнага сакратара Далеса й прэзыдэнта Айзэнгаўэра нядвузначна асьветчыла, што яна свае забавязаньні бараніць Фармозу, дадзеныя Чан-Кай-Шэку, цьвёрда наважаная выканаць. Адно астаецца няясным, ці ваеннае ўмяшаньне Амэрыкі мела-б наступіць толькі ў выпадку камуністычнага нападу на самую Фармозу, ці таксама й на абтокі Кімой і Матсу, якія цяпер знаходзяцца пад камуністычным абстрэлам. Гэтае пытаньне астаецца адкрытым, бо ані прэз. Айзэнгаўэр, ані дзяржаўны сакратар Далес на яго ня далі яснага адказу й тым самым трымаюць праціўніка ў няпэўнасьці.

На пытаньне, які абарот прыймуць далейшыя падзеі ў раёне Фармозы, можа даць адказ толькі недалёкая будучыня. Сяньня ведама толькі адно, што Савецкі Саюз, які мае вялізарныя нутраныя цяжкасьці і які ўмее пашыраць сваю экспансію мірным шляхам, сяньня вайны ня хоча. Больш таго, ён вайны баіцца, бо ведае, што, ня гледзячы на свае тэхнічныя дасягненьні, калі ходзіць пра мадэрную зброю, мілітарная перавага ўсё-ж на баку Амэрыкі.

З другога боку, заходнім кампэтэнтным колам сталася ведама, што Савецкі Саюз узбройвае атамным аружжам камуністычны Кітай і памагае адпаведна з гэтым перабудоўваць ягоную армію. Гэта абазначала-б, што камуністычны Кітай меў-бы магчымасьць самастойна весьці супраць Амэрыкі атамную вайну, у якой Савецкі Саюз ня прыняў-бы беспасярэдняга ўдзелу.

На нашую, аднак, думку, далейшы развой сытуацыі будзе залежыць вылучна ад пазыцыі Амэрыкі. Калі гэтая пазыцыя будзе цьвёрдай, няўступлівай і сьмелай, ня гледзячы на далейшыя гэтага кансэквэнцыі, тады камуністычны Кітай будзе змушаны супакоіцца. Тады ён будзе змушаны пераканацца, што разьдзьмуханая ім ваенная авантура можа абазначаць канец камуністычнай сыстэмы ў Кітаі.

Язэп Каранеўскі

---

**Аляксей Кулакоўскі**

# ДАБРАСЕЛЬЦЫ 4)

Зноў пачаў хадзіць чалавек па пакоі. Пад нагамі ўжо нічога ня скрыпела, усёроўна, як наўмысьля. Крок выходзіў кволы, нібы старэчы. Ад гэтага рабілася яшчэ горш сумна і нейкая нудлівая крыўда лезла ў душу.

«Вунь Шулаў, дык той, нябось, не ў такім выглядзе. Паліто ў яго, праўда, падточанае, але-ж боты новыя, нават зь нейкай аўчынкай у сярэдзіне. А морду наеў — навет засьмяяцца ўжо добра ня можа, шчокі не даюць. І што чалавек робіць, чым галава занята? Будуе сабе пяцісьценку на вываз ды корміць вяпрукоў. Па калгасе ў яго толькі адзін клопат: не спазьніцца паслаць зводку ў раён.

Рукі Мокрута ляжаць адна на аднэй за сьпіною, пальцы варушацца, паказваюць узбуджанасьць і нэрвовасьць. Раптам адна рука апушчаецца, зь нейкім спалохам абмацвае канты галіфэ, а потым глыбока лезе ў кішэню. Давялося навет нагнуцца, каб добра абшарыць гэтую залішне шырокую, а цяпер ўжо і ня зусім цэлую кішэню. Мокрут выцягнуў адтуль круглую пячатку ў драўляным футлярчыку і адразу павесялеў, навет узрадаваўся.

— Пячатачка ты мая! — урачыста прамовіў ён, трымаючы на далоні крыху зашмальцаваны ад прабываньня ў штанах футлярчык і пяшчотна гледзечы на яго. — Спужаўся быў, аж у сэрцы ёкнула, — здалося, што згубіў цябе, выпала ты з маіх гэтых, ужо мала надзейных штаноў. Ажно-ж не, ня выпала, дзякуй Богу! І што-б я рабіў безь цябе? Корміш ты мяне цяпер і поіш. Не адзяваеш, праўда, пакульшто, але будзеш і адзяваць! Будзеш!

Ён паднёс футлярчык ледзь не да самага носу, падкінуў на далоні, затым моцна сьціснуў у кулаку і апусьціў ізноў у кішэню.

— Будзе карміць, — ужо зусім упэўнена сказаў старшыня, — паіць і адзяваць! Яна ў мяне — чарадзейка, яна ўсё ўмее і ўсё можа. І нікому другому яна ня трапіць у рукі, пакуль сам не аддам.

Сеўшы, нарэшце, у крэсла і адкінуўшы галаву на самы верх сьпінкі, нібы яго зараз пачнуць брыць, Мокрут спачатку самазадаволена залыпаў вачыма, а потым крыкнуў так, што аж сьцены задрыжэлі:

— Печка!

Ніхто за дзьвярыма не азваўся, толькі праз якую хвіліну з дальняй бакоўкі зайшоў невялічкі хлопец, кульгавы і да таго худы і бледны, быццам толькі-што выпісаўся з бальніцы. Звалі яго тут «кульгавым начальнікам», хоць афіцыйна ягоная пасада была даволі значнай: загадчык вайсковаўліковага стала.

— Вы каго-небудзь клікалі? — спытаў хлопец.

— Дзе Печка? — Старшыня навет не варухнуўся ў крэсьле.

— Ня ведаю, — спакойна адказаў хлопец. — Пайшоў некуды зь фінагентам.

«Хабарнічаць», — хацеў сказаць Мокрут, ды стрымаўся: ня варта залішне адкрыта выказвацца перад гэтым чалавекам. Маўчыць ён усё ды аб нечым думае. Наўрад ці што добрае ў яго ў галаве.

— Можаш ісьці! — кінуў старшыня, не парушаючы свае раскошы. — Угледзіш Печку, скажы, каб зайшоў да мяне.

Калі праз нейкі час у пакой зайшоў сакратар сельсавету Васіль Печка, Мокрут зноў хадзіў па пакоі, і крокі яго былі ўжо даволі размашыстымі і цьвёрдымі. Ружова-матавы вальлячок пры хадзе тросься.

— Дзе ты быў? — грозна спытаў старшыня.

Васіль Печка, малады, шчуплаваты хлопец, у летнай вайсковай шапцы, неяк замітусіўся перад начальствам, абедзьвюма рукамі прыціснуў да жывата папку з паперамі і лагодна адказаў:

— Апісваць хадзілі . . . Апісвалі . . .

— Каго?

— Сідора, Сідора таго, што ў Дубках.

— Я вам паапісваю! — крыкнуў Мокрут і яшчэ больш размашыста захадзіў па пакоі. — Пакліч сюды фінагента!

— Я вам колькі разоў гаварыў! — пачаў Мокрут, калі разам зь Печкам увайшоў у пакой і фінагент. Голас старшыні быў поўны злосьці й абурэньня. — Ніякіх апісваньняў без адпаведнай пастановы! Зразумелі? Зарубіце гэта на сваіх насах! Мы павінны паважаць нашых людзей і заўсёды думаць пра іх. Калі ўжо й давядзецца каго апісваць, то толькі пры маёй асабістай прысутнасьці. Ціхоня быў з вамі?

— Ня было, — адказаў фінагент.

Ён стаяў побач з сакратаром і глядзеў на Мокрута зь нейкай замарожанай усьмешкай. Ягоны кашчавы, густа паморшчаны, асабліва каля губ, твар ня выяўляў асаблівага перажываньня, ні асаблівай думкі. Чалавек ён быў ужо не малады, але й пажылым яго ніхто ня прызнаў-бы. Постаць сухая, простая, валасы па гушчыні юнацкія, хоць колеру нямаведама якога: нешта накшталт мокрага касмыльля. Па росту Васіль быў яму толькі па плячо.

— Ну вось, — крычаў далей Мокрут. — Навет і ўчастковы ня прысутнічаў. Гэта што-ж! Самаўпраўшчына? Калі гаварыць па чыстай совесьці, дык гэта-ж зьдзекі над людзьмі. Што такое Сідор з Дубкоў? Я ў вас пытаю, што такое Сідор?

— Неплацельшчык, — адказаў фінагент. Зь ягонага твару ўсё яшчэ ня зыходзіла абыякавая і крыху зьедлівая ўсьмешка.

Мокрут спыніўся каля фінагента, заклаў рукі за сьпіну і пачаў гойдацца на нагах то ў вадзін бок, то ў другі.

А ці ве-да-еш ты? — пытаў ён, дакорліва ківаючы галавой у такт гайданьням. — Ці ведаеш ты, што ў гэтага твайго неплацельшчыка ў сучасны пэрыяд капейкі за душою няма?

Фінагент маўчаў, але ніводная рыска не зьмянілася на яго твары ад гэтага запытаньня. Хітры служака вельмі добра ведаў свайго начальніка і разумеў, што ні гэты палымяны голас, ні гойданьня ў бакі ня йшлі ад нэрваў, ад запраўднага ўзбуджэньня, а проста паўтаралі недзе пачутае і недзе ўбачанае.

— У яго ёсьць з чаго ўзяць, — сказаў нарэшце фінагент і зусім спакойна паглядзеў старшыні ў вочы.

— Ага, дык значыць! . . — Мокрут пераввёў позірк на Васіля. — Дык значыцца, вы пайшлі туды, каб пажывіцца, каб прымусіць чалавека . . . А ну, дыхні на мяне, Печка!

Хлопец адступіў крок назад і закрыў твар кардоннаю папкаю.

— Дыхні! — Мокрут вырваў з рук сакратара папку і стаў каля яго амаль ушчыльную. — Дыхні, а то дух выб'ю!

— Васіль дыхнуў спужана й коратка, нібы хто запраўды штурхнуў яго пад бок.

— Налізаліся ўжо! Прадстаўнікі ўлады! Гнаць вас адсюль калёнаю мятлою! Не памочнікі вы мне, а чорт ведама што!

— А ну, ты дыхні! — Мокрут падыйшоў да фінагента. Той не крануўся зь месца, толькі вышэй падняў галаву і шырока засьмяяўся.

# Восьмы Кангрэс «Царква ў бядзе»

Ад некалькіх гадоў невялікі нямецкі гарадок каля Франкфурту — Кэнігштайн — стаўся ведамым на ўвесь сьвет як аседак дапамаговае дзейнасьці для падтрыманьня духовага жыцьця між уцекачамі і асабліва праз арганізацыю міжнародных кангрэсаў прысьвечаных «Царкве ў бядзе».

Вось у гэтым Кэнігштайне сёлета між **30 ліпеня й 3-га жніўня** адбыўся ўжо восьмы Кангрэс з удзелам звыш 800 чалавек ад 30-ці народаў Эўропы, Азіі й Амэрыкі. Між імі — і беларуская дэлегацыя як сталыя ўдзельнікі кангрэсаў ад 1953 г.

У вадрозьненьне ад папярэдніх Кангрэсаў сёлета колькасьць дакладаў была зьменшана: іх было прачытана ўсяго пяць. Чыталі даклады спэцыялістыя з глыбокім веданьнем абмяркоўваных тэмаў: праф. Фр. Гіпкенс (Франкфурт) «Наступаючыя сілы ў сучасным сьвеце»; а. Я. Тома (Парыж) «Сусьветная Царква»; праф. К. Штарк (Цурых) «Камунізм на сусьветнай арэне»; праф. Г. Мэбус (Бэрлін) «Моладзь — надзея сусьветнага камунізму?»; др. Г. Гляйснэр (Лінц) «Наш уклад у новую Эўропу». У дапаўненьне да дакладаў прадстаўнікі народаў з-за зялезнае заслоны зрабілі кароткія інфармацыі аб сучасным рэлігійным жыцьці ў іхных краінах. Аб рэлігійным палажэньні ў падсавецкай Беларусі гаварыў а. Л. Гарошка.

Так даклады, як інфармацыі й выступленьні пасьля некаторых дакладаў былі на адпаведна высокім узроўні, але бадайшто вышэйшым за ўсё быў агульны настрой удзельнікаў Кангрэсу. А між удзельнікамі былі прадстаўнікі амаль усіх пластоў грамадзянства: кардыналы (Я. Эм. Фрынгс, Я. Эм. Тіен-Шэнсін), архібіскупы, біскупы, сьвятары, прафэсары, міністры, навукоўцы, работнікі, палітычныя дзеячы, студэнты і моладзь. І ў тым вялікая заслуга арганізатараў, што яны патрапілі злучыць так вялікую па сваім грамадзкім і нацыянальным складзе грамаду ў вадну вялікую сям'ю. Прычыняліся да гэтага перадусім супольныя малітвы і мастацкія выступленьні, якімі перапляталіся даклады. Напэўна ў кожнага ўдзельніка Кангрэсу застанецца назаўсёды ў памяці малітва за перасьледаваныя народы. У перапоўненай сэмінарыйнай царкве перад выстаўленымі Найсьвяцейшымі Тайнамі чыталіся панямецку кароткія малітвы за кажны народ, потым прадстаўнікі таго народу адмаўлялі ў роднай мове «Ойча наш» і «Прывітана будзь», а сьледам затым усе прысутныя сьпявалі благальны заклік прарока Іаіля: «Зьлітуйся Госпадзе, зьлітуйся над Тваім народам...» Звычайна ў міжнародных зборках, дзе сходзяцца суседзі, што маюць між сабою нямала розных непалагоджаных рахункаў, няраз ствараецца напружаны настрой, а тут у гэтай вялікай сям'і, у супольным сьпеве, пры супольным перажываньні вялікага гора, стваралася непахісная надзея, што нябесны Айцец выслухае іхную малітву й накіруе іхную долю да лепшае будучыні. Ці трэба казаць, як прыемна было адчуць, што і мы — Беларусы — належым да гэтае вялікае сям'і.

Малітвы за паасобныя народы чыталіся ў геаграфічным парадку. І ў меру таго, як чарга даходзіла да Беларусі, узрастаў той настрой, які цяжка выказаць словамі. Вось сьціхла рэха сьпеву за латвійскі народ. Хвіліна маўчаньня і сьвятар голасна рэцытуе: «Госпадзе, зьлітуйся над беларускім народам, які перцы стаўся ахвяраю бязбожнага бальшавізму і, нясучы цяжкі крыж перасьледу, складае нязьлічаныя ахвяры за вернасьць Тваім сьвятым запаветам. Міласэрны Божа, прымі гэтыя ахвяры й пашлі беларускаму народу волю і мір!» А далей, як звычайна. Толькі ў гэты час, як сьпявалі ўсе прысутныя малітву за Беларусь, хацелася заглянуць у вабліччы суродзічаў, але ў царкве было прытушана сьвятло, і навет белыя хустачкі ў руках былі нявідомыя.

Наступны вечар быў прызначаны на «Марыйскае сьвята народаў». Гэтым разам статуя Маці Божае Выгнанцаў была перанесена з сэмінарыйнае царквы ў залю адчытаў на сцэну. І цяпер, прадстаўнікі вольных і паняволеных народаў выступалі па чарзе з марыйскімі песьнямі. Гэта быў запраўды своеасаблівы вянок на гонар Дзевы Марыі. І ў тым вянку гожа красавалася беларуская кветка-песьня «Матачка Божая». Але вось скончыліся пабожныя сьпевы і пасьля кароткага перапынку на тэйжа сцэне залунала музыка, пачуўся тупат маладых ног. Гэта моладзь нагляднa выказвала, што з глыбокаю вераю ў Бога і пад апекаю Найсьвяцейшае Дзевы ніякія ліхалецьці ня здолеюць зьнішчыць надзеі на лепшую будучыню. Але перш чым разважаць, прыгляньмася да сцэны. Там адгрымелі мадзярскія мэлёдыі і вось за сцэнаю зайграў гармонік. З-за кулісаў выскачыла на сцэну чатыры пары юнакоў і юначак у беларускіх народных вопратках, выконваючы беларускі народны танец «Крыжачок». Наступна адсьпявалі песьню «Люблю наш край». Затым пайшлі выступленьні іншых нацыянальных групаў, а перад канцом беларуская моладзь яшчэ раз зьявілася на сцэне, выконваючы славутую «Лявоніху». Пасьля гэткіх выступленьняў паволі апаражнялася заля, і ўсе ўдзельнікі яшчэ да позна ўначы за супольнымі сталамі на плошчы дзяліліся сваімі ўражаньнямі, і далей сьпявалі й танцавалі.

Кажнага дня падчас Кангрэсу, раніцаю правілася ўрачыстая Служба Божая ў сэмінарыйнай царкве. Акрамя таго паасобныя групы зьбіраліся каля сваіх сьвятароў. Беларусы зьбіраліся на саборную Службу Божую сваіх сьвятароў у Марыйскай капліцы. А ў нядзелю 3-га жніўня была адпраўлена для ўсіх урачыстая Служба Божая бізантыйскага абраду ў саслужэньні украінскіх, беларускіх і расейскіх сьвятароў. Прыгожа сьпяваў хор з Утрэхту.

Перад заканчэньнем Кангрэсу яшчэ раз на сцэне зьявілася моладзь і гэтым разам са сваімі сьцягамі, дэманструючы сваю вернасьць запаветам Хрыста.

Чатыры дні Кангрэсу прамінулі надзвычайна хутка, але як-жа яны былі плённыя для людзей добрае волі!

**а. Леў**

# Чыя тэндэнцыя?

А. Негнявіцкі ў сваім, як ён кажа, «асьветчаньні», надрукаваным у № 26/412 «Бацькаўшчыны» пад назовам «Да 'бакоў'» др. Станкевіча аб «Успамінах» В. Рагулі», стараецца давесьці ў мяне «непраўдзівасьць толькі аднаго факту». Фактам гэтым, подле А. Н. ёсьцека паданы мною спосаб выстаўленьня кандыдатуры В. Рагулі за пасла на сойм у 1922 г. Н. літаральна піша, што ён мусіць «падкрэсьліць непраўдзівае цьверджаньне аўтара (мяне — Я. С.) аб гэтым выстаўленьні ягонае (Рагулявае — Я. С.) кандыдатуры».

У сваім разглядзе «Успамінаў» Рагулявых пра матарыяльны стан Рагуляў, у часе выстаўленьня ягонае кандыдатуры, я толькі паўтарыў (у № 18/404 «Бацькаўшчыны) тое, што Рагуля сам напісаў пра гэта (на бачынах 10 і 20 «Успамінаў»). Рагуля таксама сам апісаў (на бб. 19—20 «Успамінаў») спосаб выстаўленьня ягонае кандыдатуры, і я гэтаму не запярэчыў. Дык дзе-ж тут маё непраўдзівае цьверджаньне? Н. б'ецца ў вадчыненыя дзьверы.

Н. абураецца на мае зазначэньне, што Рагулю «беларускі рух» «пасуліў мандат на сойм». Н. заяўляе: «Кандыдатуру В. Рагулі выставілі й выбралі яго пасолом Беларусы Наваградчыны, а не «беларускі рух». Прыпомнема як было. **Беларускі** выбарны камітэт, зарганізаваны **беларускім** цэнтрам у Вільні, задзіночыўшыся зь іншымі няпольскімі нацыянальнасьцямі вёў акцыю за супольнае сьпісаньне (список, лісту) № 16. Выстаўленьне **беларускіх** кандыдатаў на гэтым сьпісаньні залежыла ад менаванага беларускага камітэту, каторы й выставіў Рагуляву кандыдатуру на зычэньне мясцовае беларускае (наваградзкае) інтэлігенцыі. Сам Рагуля згадзіўся быць **беларускім** кандыдатам на сойм ад менаванага беларускага камітэту. Гэта зусім ясна падаў Рагуля (бб. 19—22 «Успамінаў»). Ці гэтага не даволі, каб сьцвердзіць, што беларускі рух пасуліў Рагулю мандат? Я пытаюся ў Н.: чаго яшчэ было трэба, каб беларускі рух пасуліў мандат Рагулю? І чаго наагул трэба, каб якую работу, дзейнасьць, дзеяльнасьць або які факт, стацьцё, здарэньне ўважаць за прычыненыя беларускім рухам, за рэзультаты гэтага руху? Мне, а пэўне-ж і ўсім, ведаючым палажэньне й стан нашага народу просьле ягонага ўпадку, зусім чыста ясна, што ўсё, што ў XX і часьці XIX стагодзьдзя дзеялася й дзеіцца на карысьць беларускага народу як нацыі, ёсьць рэзультатам беларускага руху. І тое, што Н., я і іншыя

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Ня куецца, а плешчацца

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

Дзіўна, сакратар ЦК зноў «адкрыў Амэрыку». Мяснымі сьвінямі называюцца на Беларусі надворныя, якія прадаваліся на рынку, бо былі лішнімі ў гаспадарцы. Надворныя сьвіньні (мясныя) звычайна купляліся на адкорм, а цяпер калгасы прымушаны здаваць іх дзяржаве на мяса.

Няўдачы ў разьвіцьці й адкорме сьвіней у калгасах і саўгасах прымусілі Мазурава зьвярнуць увагу на развіцьцё другарадных відаў жывёлагадоўлі. «Вялікаю крыніцаю вытворчасьці мяса павінна быць авечкагадоўля» адзначыў Мазураў. Аднак Мазураў канстатаваў, што і гэтая галіна у шмат якіх калгасах скарачаецца. Прыплод авечак штогод паніжаецца, а якасьць воўны пагаршаецца. Апрача нядбайства шэрагу калгасаў да разьвіцьця авец, Мазураў «глыбакадумна» адзначыў і біялягічныя прычыны заняпаду авечкагадоўлі на Беларусі, якія ў значнай ступені абніжаюць адказнасьць калгасаў. На яго думку вялікую шкоду разьвіцьцю авечкагадоўлі прыносіць блізкае сваяцтва пры расплоджваньні авечак. Сакратар ЦК КП Беларусі на пленуме з дакорам адзначыў, што гэтым біялягічным зьявішчам ня цікавіцца ні Акадэмія сельскагаспадарчых навук, ні спэцыялістыя міністэрства сельскай гаспадаркі.

Выключную ўвагу Мазураў зьвярнуў на разьвіцьцё птушкагадоўлі, асабліва вадаплаваючай, бо з самай вясны й да зімы яна амаль не патрабуе корму. Але і гэтая галіна папаўненьня мясных рэсурсаў знаходзіцца на Беларусі ў цяжкім становішчы. Так перадавікі сельскай гаспадаркі Маладэчынскай вобласьці ад імя ўсіх калгасаў забавязаліся выгадаваць у гэтым годзе й здаць дзяржаве на мяса 748 тысяч галоў птушкі, у тым ліку 604 тысячы качак і гусей, бо ў гэтай вобласьці шмат рэчак і вазёраў.

Аднак як высьвятлілася на пленуме, забавязаньне было падпісана, а выкананьне яго пушчана на вей вецер. Замест 758 тысяч галоў птушкі на першае ліпеня ў калгасах вобласьці налічваецца толькі 64 тысячы 800 штук, або 8,5 працэнтаў падпісанага забавязаньня.

Адразу пасьля пленуму ў Мядзельскі раён Маладэчынскай вобласьці была высланая так званая рэйдавая брыгада. Рэйдавая брыгада складалася з прадстаўнікоў Маскоўскай газэты «Сельское хозяйства» рэспубліканскай — «Зьвязда» і вабласной — «Чырвоны сьцяг». Брыгадзе было даручана ўсебакова высьвятліць прычыны такога ганебнага зрыву забавязаньня. Мядзельскі раён забавязаўся выгадаваць у гэтым годзе 50 тысяч ў асноўным гусей і качак. Рэйдавая брыгада трапіла адразу ў калгас імя Сталіна пры рэчцы Ўзла. У цэнтры калгасу ёсьць вадзяны млын. Вышэй запруды шырока разьлілася рэчка. На гэтым плёсе плаваюць гусі й качкі ды нязьлічоная колькасьць пры іх гусянят і качанят. «На жаль, гэта птушка не калгасная», адзначыла брыгада. Калгасу належаць толькі 37 качанят, 200 гусянят. Усе яны утрымліваюцца ў калгаснай бані разам з куранятамі.

Наведала рэйдавая брыгада й калгас «Пераможац», які знаходзіцца пры вялікім возеры Батура. Брыгада адзначыла, што на гэтым возеры штогод можна выгадаваць 20—30 тысяч гусей і качак. А між тым брыгада налічыла ў калгасе толькі 170 куранят і каля паўсотні гусянят. Кураняты ўтрымліваюцца ў былым памешканьні чырвонага кутка, ў якім адгароджан маленькі куточак і гусянятам. А між тым калгас забавязаўся ў гэтым годзе выгадаваць тры тысячы гусей.

Ня лепшае становішча з птушкагадоўляй і ў суседнім калгасе «Перамога». Птушная фэрма гэтага калгасу мае 40 дарослых гусей і 30 гусянят. Даглядае гэтае калгаснае багацьце сьвінарка Уліма Карпей. Апрача гусей Карпей даглядае 3 сьвінаматкі й 35 сьвіней на адкорме. Калгас для гусей не адвёў адмысловага памешканьня. Уліма Карпей трымае гусянят днём на дварэ ў скрыньцы, якую яна выпрасіла ў краме сяльпо, а нанач бярэ гусянят да сябе на кватэру. Старшыня калгасу Рудэнка стараўся пераканаць рэйдавую брыгаду, што птушкагадоўля ў калгасе — справа клапатлівая. «Выпусьціш птушак на возера, казаў Рудэнка, а яны заплывуць да чужога берагу, а потым і шукай іх. Ня ставіць-жа агарожу на вадзе»!

Аб'ехаўшы калгасы Мядзельскага раёну, брыгада падлічыла, што на 12 гэктараў вадаплошчы ў раёне прыходзіцца толькі... адна калгасная качка. Як адзначыў Мазураў на пленуме ЦК «у другіх вабласьцях рэспублікі з птушкагадоўляй прыкладна такое-ж самае становішча. Шэраг калгасаў зусім ня маюць птушкагадоўчых фэрмаў».

У гэтым годзе пагоршылася справа на курыных фэрмах калгасаў. Як высьвятлілася на пленуме ЦК за шэсьць месяцаў гэтага году калгасы рэспублікі атрымалі ў сярэднім на адну нясушку толькі па трыццаць яек, на сем яек менш, чым было атрымана ў мінулым годзе.

Зрабіўшы кароткі агляд разьвіцьця некаторых відаў жывёлагадоўлі ў калгасах Беларусі, памімаволі ўзьнікае пытаньне: якія-ж прычыны мяшаюць калгасам выконваць прынятыя на сябе забавязаньні? Камуністычнае кіраўніцтва прыдумала шмат розных формаў эксплёатацыі калгаснага сялянства: сацыялістычнае спаборніцтва, датэрміновае выкананьне розных заданьняў, забавязаньне на павышаную здачу дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі, зьверхплянавыя нарыхтоўкі й гэтак далей. Усё гэта формы эксплёатацыі. Камуністычнае кіраўніцтва намагаецца ад калгасьнікаў узяць як найбольш і пакінуць ім за цяжкую працу як найменш. Таму сярод калгасьнікаў распаўсюджана прыказка: «Калгасьнікі сеюць, жнуць і косяць, а сабе хлеба просяць». Прыгонная калгасная праца, груба прыкрытая нібы дабраахвотнымі жаданьнямі самога калгаснага сялянства падпарадкавацца эксплёатацыі, адбівае ахвоту ад запраўды вольнай прадуктыўнай працы, губіць ініцыятыву й зацікаўленасьць. Вось асноўныя прычыны ганебных вынікаў выкананьня розных забавязаньняў, прынятых бязь ведама й згоды эксплёатаванага калгаснага сялянства.

**В. Б.**

---

— Сьвіньня! — з прыціскам сказаў Мокрут, убачыўшы чорныя шчарбіны і застарэлыя старыя зубы. — Няма чаго і гаварыць з табою!

Старшыня адыйшоў ад сваіх памочнікаў ізноў, заклаўшы рукі за сьпіну, пачаў хадзіць па пакоі. Фінагент стаў нешта гаварыць, раз-по-разу уцягваючы праз зубы паветра і квола варочаючы перасохлым языком. Аднак Мокрут ужо ня слухаў яго і скоса паглядаў толькі на Васіля.

— Сэсія гатова? — спытаў ён у хлапца і накіраваўся да папоўскага крэсла. — Ты можаш ісьці! — кінуў ён фінагенту.

Васіль хуценька разьвязаў папку, пашамацеў там у паперах і паслухмяна, зусім бяз крыўды, адказаў:

— Гатова, таварыш старшыня. У мяне ўсё з сабою.

— Давай сюды!

Васіль падбег да стала і сеў на тым скрыпучым зэдліку, дзе нядаўна сядзела бабка з Жоўтай гары, але Мокрут кіўнуў яму, і хлапец, загрымеўшы гэтым зэдлікам, умомант апынуўся ледзь ня побач з начальствам.

— Што там у цябе? — змрочна спытаў Мокрут, не падымаючы галавы.

— Вось, — пасьпешліва загаварыў Печка, падсоўваючы пад вочы старшыні двайны ліст з вучнёўскага сшытка. — Тут у мяне ўсё гатова.

— Чытай сам! — загадаў Мокрут і пстрычкай адштурхуў паперку.

Васіль аберуч злавіў лісток, зьняў сваю шапку і шпурнуў яе на падаконьнік. Жоўта-шэрыя, трохі пакручастыя валасы, няўмела падстрыжаныя пад бокс, выпрасталіся і надалі галаве вастраваты выгляд.

— Пытаньне спагнаньня плацяжоў, — пачаў чытаць Печка.

— Тэрміновага спагнаньня, — уставіў Мокрут.

— Ага, добра, — згадзіўся Васіль. — Тэрміновага спагнаньня плацяжоў. Дакладчык — старшыня сельсавету таварыш Мокрут. Пастанавілі: забавязаць усіх дэпутатаў сельсавету актыўна ўключыцца...

— Пачакай! — зноў перабіў яго Мокрут. — Што мне твае дэпутаты? Нічога яны ня зробяць. Настаўнікаў трэба падключыць. Разумееш?

— Правільна! — згадзіўся Васіль. — Забавязаць усіх дэпутатаў сельсавету й настаўнікаў актыўна ўключыцца ў спагнаньне... Ага, ня так. У тэрміновае спагнаньне плацяжоў па ўсёй тэрыторыі сельсавету і закончыць гэтую справу не пазьней?.. — Васіль падняў вочы на старшыню.

— Трох дзён, — ціха, але рашуча сказаў Мокрут.

— Та-ак, — паправіў сакратар у сваіх запісах. — Закончыць гэтую справу ў трохдзённы тэрмін. Галасую. Хто за, хто супраць, хто ўстрымаўся? Аднагалосна. Пераходзім да другога пытаньня...

— Пачакай! — ужо са злосьцю крыкнуў старшыня. — Якое табе тут аднагалосна? Мітрафанава Даша абавязкова падыме супраць. Улічваеш? А потым гэты сівы маладажон, дырэктар, які заўсёды лезе із сваімі прапановамі?..

— Чаго-ж тут лезьці? — нясьмела запярэчыў Васіль. — Усё вельмі ясна.

— Знойдуць шчыліну, — заўважыў Мокрут і працягнуў руку да лістка.

— Пішы так! — загадаў ён, пастукаўшы пальцам па лістку. — Галасую! Хто супраць пастановы бюро райкому партыі і райвыканкому? Хто ўстрымаўся? Няма. Аднагалосна.

Васіль запісаў усё гэта і тады пачаў чытаць далей.

Калі чытаньне было скончана, Мокрут, ледзь толькі абвёўшы вачыма тэкст, падпісаў паперку і суха сказаў:

— Ты выпішаш позвы дэпутатам, а ў школу я зайду сам. Потым вось што: зрабі мне копіі ўсяго гэтага твайго спэктаклю. Я пазваню ў райвыканком і там узгодню.

— Чаму гэта майго? —пакрыўджана спытаў Васіль.

— А чыйго-ж? — старшыня рушыў у кут ля дзьвярэй, дзе віселі ягоная кожанка і каракулевая вушанка із скураным верхам. — Ня я-ж выдумаў усю гэтую пісаніну.

— Ня вы й ня я, — лагодна загаварыў сакратар. — Так заўсёды рабілі. Падрыхтоўка дакумантаў — рэч важная.

— Ладна! — старшыня махнуў рукою і пачаў здымаць з крука сваю кожанку.

Пакуль Мокрут апранаўся, Васіль моўчкі наглядаў за яго рэзкімі, зласнаватымі рухамі, слухаў знаёмае палопваньне кожанкі, і толькі ўжо калі начальства ўзялося за ручку дзьвярэй, сакратар зноў загрымеў зэдлікам і спытаў:

— Вы яшчэ прыйдзеце, таварыш старшыня?

— Прыйду, — неахвотна адказаў Мокрут. — Перад самым вечарам.

— Тут гэтае самае... — Хлапец замяўся і стаў пасьпешліва завязваць сваю папку.

— Што? — старшыня прыпыніўся перад расчыненымі дзьвярамі.

— Сямён Казырок павінен неўзабаве прыйсьці.

Мокрут зачыніў перад сабою дзьверы, і на ягоным вальлячку адбілася задаволеная ўсьмешка.

— Запісваць прыйдзе?

— Так запісваць. Заўтра ў яго радзіны. Ішлі мы гэта паўзь ягоны двор, дык з коміна сіні дымок цадзіўся, а смажаная цяляціна пахла аж на ўсю вуліцу.

— Зарэзаў, значыцца? Маладзец Сямён! — Старшыня пачаў гаварыць з сакратаром ужо зусім іншым тонам. — Тады вось што, Васіль. У Сямёна сяньня, ты-ж ведаеш, многа ўсялякай работы, рознай бегатні. А чалавек ён паважаны, герой Айчыннай вайны.

— Які ён герой? — нясьмела заўважыў хлопец і першы раз за ўсю гутарку ўсьміхнуўся.

— Як гэта які? Мае два ордэны, мэдаль. Мы, брат, з табой нічога ня маем. Адным словам, так. — Старшыня ўзяў з акна вайсковую шапку і падаў яе сакратару. — Схадзі ты, Вася, да Сямёна і скажы, што ня варта яму дастаўляцца ў сельсавет вунь з самага дальняга пасёлка. Прыйдзем сяньня мы да яго самі і запішам, зробім усё, што трэба. Чуласьць трэба праяўляць, разумееш? Скажы, што да каго-небудзь іншага я, вядома, не пайшоў-бы нізавошта. А да Сямёна прыйду.

## VI

«Кульгавы начальнік» быў таксама з Дабрасельцаў, навет і прозьвішча меў Дабрасельскі, але ў гэтую зіму пражываў больш у Чырвоных маках, бліжэй да службы. Кватараваў ён тут у ваднэй бабулькі, якая ўсё сваё жыцьцё пратупала вартаўнічкай каля царквы, а пасьля таго, як прыхажане закрылі царкву, нібы на злосьць усім, не працавала нідзе. Кватарант калоў ёй дровы на абагрэў печы, прыносіў з былога папоўскага калодзежа вядро вады. Гэтага вядра хапала бабцы амаль на двое сутак.

(Далей будзе)

# Згуртаваньне Славянскіх Арлоў на эміграцыі

Ужо належыць да мінулага той час, калі па ўсёй Зах. Нямеччыне ў лягэрах ДП квітнела скаўцкае жыцьцё. Лягэры апусьцелі, моладзь расьцярушылася па ўсім белым сьвеце і аб арганізаваным жыцьці юнацтва астаўся толькі прыгожы ўспамін.

Але-ж эміграцыйная моладзь ня зьнікла зусім, а да таго ў рады старэйшае моладзі даходзіць падрастаючае пакаленьне малодшага юнацтва — было-б недаравальным нядбальствам пакінуць іх бязь ніякае ўвагі. На шчасьце яшчэ і ў Зах. Эўропе асталіся людзі, якім ляжыць на сэрцы доля моладзі

Доля эміграцыі зза зялезнае заслоны падобная ўва ўсіх народаў. Больш чым дзе гэтае падабенства выявілася ў справе маладняцкіх арганізацыяў. Да таго сучасныя ўмовы жыцьця ў Зах. Нямеччыне дыктуюць яшчэ спэцыяльныя вымогі і пры тым зусім аднолькавыя для ўсіх чужынцоў. І вось у гэтых умовах ажывілі й значна пашырылі сваю працу кіраўнікі «Сьвятавацлаўскага Згуртаваньня Арлоў». Гэтая арганізацыя мае за сабою ўжо не малую гісторыю, але перш яна разьвівалася толькі ў Чэхаславаччыне. Як эміграцыйная арганізацыя яна аформілася ў 1948 г. і тады-ж пачала пашыраць свае нацыянальныя рамкі да міжнароднае арганізацыі «Славянскіх Арлоў», выпісаўшы на сваім сьцягу палымяныя словы: Бог і Бацькаўшчына.

Калі іншыя падобныя арганізацыі змыла з паверхні жыцьця хваля эміграцыі ў заакіянскія краіны, дык Арлы вытрывала йшлі ўпярод, ажывілі сваю акцыю на амэрыканскім кантынэнце, а ў Зах. Эўропе і ў першую чаргу ў Зах. Нямеччыне пачалі тварыць сэкцыі паасобных народаў. Гэткім парадкам ужо ў 1957 г. была створана сэкцыя Беларускіх Арлоў.

Сёлета дзякуючы стараньням кіраўніка эўрапэйскага камітэту Славянскіх Арлоў сп. Р. Крэмпелю быў зарганізаваны ў Кэнігштайне летні лягер для 84 маладых Арлоў з шасьці народаў. Беларуская група мела 14 юнакоў і юначак.

Звычайна летні лягер прызначаецца для адпачынку моладзі. Так было і ў Кэнігштайне. Але набліжаўся міжнародны Кангрэс «Царквы ў бядзе» (глядзі аб гэтым іншы артыкул) і ў гэтым Кангрэсе прызначалася для моладзі спэцыяльнае мейсца на выступы з мастацкаю самадзейнасьцяй. Пачалася прысьпешаная падрыхтоўка. Ды яшчэ якая прысьпешаная: некалькі дзён. І тут Беларускія Арлы праявілі сваю здольнасьць. Запраўды трэба было падзіўляць усю групу танцораў, як яны, не зважаючы на летнюю гарачыню, за кароткі час вывучылі аж тры народных танцы да выступу на сцэне. Старэйшыя дапамаглі пашыць беларускую нацыянальную вопратку й беларуская юнацкая група сталася атракцыяю.

Прыгожае выкананьне беларускіх народных танцаў перад глядачамі трыццаці розных народаў было мілаю неспадзеванкаю для ўсіх удзельнікаў Кангрэсу, а яшчэ больш мілаю неспадзяванкай было для ўсіх, калі пасьля «Крыжачка» на той-жа сцэне танцоры стварылі хор, і хорам дырыгавала найменшая ў групе трынаццацігадовая Тамара. Песьню «Люблю наш край» адсьпявалі добра, дарма што сьпявакі няўсьпелі яшчэ адсапціся ад скочнага танцу.

Падчас трываньня Кангрэсу «Царквы ў бядзе» Беларускія Арлы мелі штодзенныя спатканьні з прысутнымі там сваімі сьвятарамі, пачулі шмат гутарак на актуальныя тэмы. А на разьвітальным вечары відаць было на іхных абліччах, што ў іх растуць моцныя духовыя й умысловыя крыльлі для перамогі ўсіх тых цяжкасьцяў, якіх ніколі й нікому жыцьцё не шкадавала.

Перад заканчэньнем летняга лягеру выбрана кіраўніка й духовага апякуна для Беларускіх Арлоў і намечана плян працы на бліжэйшую будучыню. Яшчэ цяжкасьцяў у працы ёсьць нямала, але калі-б узрасьлі рады Беларускіх Арлоў, іхняя праца Богу на славу й Бацькаўшчыне на карысьць бязумоўна прынясе добры плён.

**а. Леў**

# Зь беларускага жыцьця

**Нью Брансвік, Н. Дж., Саўт Рывэр, Н. Дж.**

Дня 17. 8. 58 г. адбылося сьв. хрэшчаньне першага сына ў сп-ва Кузьменка, якія жывуць у Нью Брансьвіку. Імя сыну дадзена Пятрусь. Абрад сьв. хрэшчаньня выканаў настаяцель парахвіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці а. Сьцяпан Войтанка. Гасьціннае прыняцьце адбылося ў Саўт-Рывэр. Бацькам маленькага Пятруся — Зіне і Язэпу нашы парахвіяне жадаюць шмат гадоў шчасьлівага жыцьця, а малому Пятрусю — каб вырас вялікім на пацеху бацькам і на карысьць беларускай грамадзкасьці!

У часе сямейнай урачыстасьці было сабрана 20.00 дал., якія былі перададзеныя на Беларускія радыяперадачы ў ЗША. Ахвяры зьбіралі сп-ні А. Войтэнка і М. Байчук. Усім ахвярадаўцам шчырае дзякуй!

*

Беларуская калёнія Нью Брансьвік — Саўт Рывэр у апошнім годзе вельмі разраслася, а разам з гэтым і павялічыўся лік парахвянаў БАПЦ, ды ўзрасла колькасьць новых сяброў Аддзелу БАЗА Н. Брансвік — Саўт-Рывэр.

Таксама неабходна зазначыць, што парахвія Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку натолькі ўзмацнела, што Царкоўная Ўправа робіць захады набыць пляц на пабудову Царквы, ды месца на беларускі магільнік.

Ініцыятыву Царкоўнай Управы трэба горача прывітаць, ды стаць у матэрыяльнай дапамозе.

**С. Гутырчык**

## УВАГА!

СЯРГЕЯ МАЗУРО, сына Пятра й Вікторыі, зь мястэчка Ўсялюб, Наваградзкага павету, — які праўдападобна знаходзіцца цяпер у Ангельшчыне, шукаюць сваякі з Амэрыкі.

Кажнага, хто чуў аб ім ці ведае ягонае месца жыхарства, просім паведаміць Рэдакцыю.

*

Шукаю знаёмых зь БЯГОМЕЛЬСКАГА й ПЛЕШЧАНІЦКАГА раёнаў. Адрасы падаваць Адміністрацыі «Бацькаўшчыны».

# Чыя тэндэнцыя?

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

пішам пабеларуску — таксама рэзультат беларускага руху. Дзеля таго, калі-б навет не Камітэт беларускага цэнтру, а мясцовыя **Беларусы** паставілі кандыдатуру Рагулі або сам Рагуля паставіў сваю кандыдатуру як **беларускага** пасла на сваім асабістым сьпісаньні, маючы наўвеце абарону патрэбаў **беларускага** народу, дык і тады было-б, што мандат яму пасуліў беларускі рух, бо калі-б ня было гэтага руху, дык ня было-б беларускага выбарнага сьпісаньня і беларускіх паслоў, а былі-б **паслове** польскія й расейскія, хоць-бы былі Беларусы.

Н. заяўляе, што маё цьверджаньне пра пасуленьне беларускім рухам мандату Рагулі значыць, што беларускі рух перакупіў Рагулю, што, калі-б так было, то сьвечыла б «аб махлярстве з матарыяльна-асабістым падыходам да беларускае справы». Я гэтак ніколі ня думаў. Наадварот, я ацанаваў як высака позытыўны факт, што Рагуля зрабіў правільны вывад із палажэньня свайго народу і свайго асабістага ды зь некаторых магчымасьцяў беларускага руху, нат у найгоршым часе, і вызваліўся ад сваіх «истинно руских» паглядаў, і лёяльна стаў на грунт незалежніцка-беларускі. Ніхто, лёгічна думаючы (а пэўне-ж запраўды й Н.) ня можа зрабіць із напісанага мною такіх вывадаў, якія відаць тэндэнцыйна — зрабіў Н. Зацемлю яшчэ, што слова «пасул» я ані разу ня ўжыў, ужывае яго толькі Н. Пасуліць-жа мандат або што іншае, або пасуліць якую суму што купляючы, ня знача даць пасул. Нельга ўважаць, як ўважае Н., што калі беларускі рух штось каму пасуліў, дык яго перакупляе. Хто-б спадзяваўся такога пагляду ў **сьвядомага Беларуса?**

Спадару Н.! І аднае тэндэнцыі ў мяне Ваша не давёў. Не ў мяне, а ў Вашэці тэндэнцыя. Тэндэнцыяй ё, што Ваша так няправільна выясьняеш словы «беларускі рух пасуліў мандат». Я не магу паверыць, каб Ваша не разумеў, якая дзеяльнасьць і пад. належа да беларускага руху. Прыпомню Вашэцю й іншы канкрэтны прыпадак тэндэнцыйнасьці што да мяне. Ваша ведаў, што я правёў у сойме прызнаньне 250 тысяч злотых на сканчэньне будынку беларускае гімназіі ў Наваградку, і пытаўся Ваша ў мяне, хто да мяне зварачаўся з такім зычэньнем; але ў надрукаваных у «Бацькаўшчыне» ўспамінах з Наваградчыны Ваша напісаў толькі «Сойм асыгнаваў». Калі вышлі «Успаміны» Рагулявы, дзе хвальшыва было сказана, што менаванае прызнаньне соймам правёў Ярэміч, то Ваша й тады не паправіў.

**Я. Станкевіч**

# Партызаны ў Амэрыцы

Я, грамадзяне, люблю схадзіць і ў кіно, тэатр, ці навет і ў кабарэт, люблю й музыку, і песьні й скокі.

Як свае родныя беларускія, так іншых народаў 'шчэ будучы на Беларусі, ня ўпушчаў не аднэй магчымасьці пабачыць што прыгожае.

Але, пасьлей, лёс перакінуў мяне на гэты бок зялезнае заслоны, якая 'шчэ й сяньня не падымаецца, дарма, што тупагаловы «бацька» выцягнуў ногі. Праўда, Мікіта крыху прыпадняў яе для сваіх спарадожнікаў Зямлі, але й тыя жывымі варочацца назад ня хочуць. Прыпадняў ён яе, нарэшце, і для ста пяцёх «партызанаў» Майсеева — ажно з Масквы. Былі яны і ў Канадзе.

«Партызаны» гэтыя добра скакаць умеюць, ды й рэпартуар падабралі нат шматнацыянальны. Даведаўся гэта я, што ў Таронта будуць яны партызаніць зь «Юрачкай» ды з «Бульбаю» беларускаю, ну й наважыўся паглядзець на Беларусаў адтуль — пабачыць, як рэпрэзэнтуюць яны нашае народнае мастацтва. Так і зрабіў. Падумайце: праграму бясплатна атрымаў у дзьвярох. Прачытаў яе ўсю, згары ўніз і зьнізу ўгару, навет пад сьвятло паглядзеў. Ды расчараваўся: хоць-бы адно беларускае прозьвішча сярод усіх тых дзесяткаў пералічаных — усё на «ов» ці «ова». Вось, думаю, папаўся ў партызанскую засаду... Масква нат не давярае іншым народам, акрамя «вялікага» самым сваё мастацтва на паказ павесьці — лепш сама паказвае, і за іх пахвалу атрымоўвае, як за ўсё сваё...

А прапаганду ўмела падтасавалі: у дадатак да «Партызанаў» і «Футболу», гулялі й скокі народныя украінскія, беларускія, армянскія, малдаўскія... Толькі нешта летувіскіх, латыскіх ды эстонскіх пабаяліся ўключыць. Га, пратэсты?

І так ад гораду да гораду разьяжджаюць сабе «партызаны» па «гнілой капіталістычнай Амэрыцы» ды далярчыкі зьбіваюць. На нешта прыдадуцца...

Пасьля канцэрту дачакаўся я выхаду ў аўтабус «партызанаў» дый пытаюся: «Ці ёсьць тут сярод вас Беларусы?» І тут мне ў адказ:

— Да, у нас в Москве есть много Белорусов...

— Га, другая Амэрыка! Я й сам гэта ведаю! «Есть» Беларусы ня толькі ў Маскве, але й у Сібіры, у Казахстане. А чаму вось сюды іх ня пусьцілі?

Так і скончылася мая першая візыта да партызанаў за акіянам на «капіталістычным» грунце, на якім, дарэчы, вельмі-ж хутка мякчэюць пралетарскія пагляды й тэорыі...

— Але майсееўцы — усё-ж сэнсацыя, — кажуць мне некаторыя знаёмыя чырвонае ахварбоўкі. — Ніхто так ня ўмее!
— Ну, — я ім на гэта, — была-б 'шчэ большая сэнсацыя тут, на Захадзе, калі-б сам Мікіта паказаўся на сцэне із сваім «Гапачком», які ён няраз скакаў перад Язэпам у Крамлі, каб выратаваць свой жывацёнак. І напэўна нядрэнна вытоптваў, бо ўцалеў, хоць і ня з усімі клёпкамі...

А што вы на гэта сказалі-б?

**Антось Паплёўка**

*Ліст у Рэдакцыю*

# Каму й чые грошы не сьмярдзяць?

Вельміпаважаная Рэдакцыя,

Ветліва прашу зьмясьціць у бліжэйшым нумары Вашае газэты залучанае тут выясьненьне да зацемкі, якая зьявілася ў газэце «Беларускі Голас».

З пашанаю,
К. Мерляк

*

У газэціне «Беларускі Голас» н-р 48 за жнівень г. г. — выдаваным у Канадзе органе Сяргея Зіняка (Хмары), зьмешчаная зацемка пад залагоўкам «Грошы не сьмярдзяць», аб маім удзеле ў Вашынгтоне на Кангрэсе Этнічных Групаў ЗША і сустрэчы там з прадстаўніком Лігі Ўзаемнай Супрацы Этнічных Групаў у Канадзе ў пачатку ліпеня сёлета.

Калі-б ў тэй пашквільнай пісаніне ня былі згадваныя прозьвішчы Старшыні Лігі сп. Якубца й Сакратара Пэтрыні, я, ведаючы цану аўтару (а гэта напэўна Хмарава пісаніна, хоць і не падпісаная), навет не турбаваўся-б спрастоўваць да непазнаньня перакручаныя ў зацемцы факты.

Ня ведаю, хто гэтыя факты аж да такой ступені перакруціў — вінаваты тут сам экспэрт у гэтай галіне Хмара, ці не бязь віны тут і Старшыня Лігі. Гэта, ўрэшце рэштаў, справа ня істотная. Адзначу толькі, што калі-б сп. Якубец быў на ўзроўні займанага ім становішча, дык наагул аб нашай гутарцы Хмару не расказваў, а прынамся перадаў-бы факты праўдзівыя. Вось гэтыя факты:

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў Амэрыцы ёсьць сябрам Канфэдэрацыі Этнічных Групаў у ЗША, якая й запрасіла прадстаўнікоў Канадзкай Лігі; інакш кажучы — ня БАЗА было тут гасьцём, а прадстаўнікі Канадзкай Лігі.

У даўжэйшай гутарцы із сп. Якубцом на розныя палітычныя тэмы, мы перайшлі таксама й да справаў Лігі, і сяброўства ў ёй г. зв. Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня. Сп. Якубец, зарыентаваўшыся, у чым справа, не знайшоў нічога лепшага, як выясьняць сваю падтрымку Зіняка асабістай прыязьняй. Да гэтага ён паставіў закід — і тут відаць рука тога-ж Зіняка — што прадстаўнік Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе працаваў у камуністычнай арганізацыі. Пабачыўшы, што аргумантацыя сп. Якубца нічым ня розьніцца ад Зіняковае, я ўсё-ж палічыў патрэбным сказаць сп. Якубцу наступнае: я вельмі добра паінфармаваны, дзе працаваў прыгаданы прадстаўнік ЗБК — не ў нейкай камуністычнай арганізацыі, а ў фірме, якая высылае пачкі ў Савецкі Саюз, да гэтага ў фірме, рэклямаванай ягоным сябрам Зіняком у сваім «Голасе». Я дадаў, што спадар Якубец хіба-ж ведае, што газэта ягонага сябры Зіняка фактычна фінансуецца савецкімі гандлёвымі прадпрыемствамі, якія высылаюць пачкі ў Савецкі Саюз — фінансуецца імі ў форме сталых абвестак па чатыры-пяць у кожным нумары. Выходзіць, што савецкія грошы ані Зіняку, ані ён сп. Якубцу не сьмярдзяць...

Што да эпітэтаў, прыстаўленых у зацемцы да майго прозьвішча, дык няма ніякага дзіва. Чалавек зь нячыстым сумленьнем намагаецца ўгаварыць іншаму, як кажуць, сваю хваробу. Слова «агент», якім ён апэруе ў дачыненьні да мяне й да іншых прадстаўнікоў арганізацыі, гэтую старую праўду толькі пацьвярджае.

**К. Мерляк**

Рэдакцыя й Адміністрацыя жадае шмат шчасьця на новым месцы шматгадоваму й адданаму працаўніку нашае Адміністрацыі й супрацоўніку газэты сп. Сяргею ГОХУ й ягонай сям'і.

Шчасьці Божа, на новым месцы!



# Новае пра Забэйду-Суміцкага

Ізноў даведваемся зь беластоцкае газэты «Ніва» новае пра ведамага беларускага сьпевака Міхася Забэйду-Суміцкага. Як мы паведамлялі ўжо раней, ён жыве цяпер у Чэхаславаччыне (праягоны лёс да гэтага часу, нам нічога няведама). Выяўляецца, што ён ня толькі прапагуе беларускія песьні ў сваіх канцэртных выступах у Чэхаславаччыне, але апошнім часам насьпяваў на грамафонныя кружэлкі, акрамя ранейшых і ведамых нашай эміграцыі, 9 беларускіх народных песьняў: «Калыханка», «Ляціць сарока», «Свадзьба камара й мухі», «Ой, арол, ты арол», «Сьвеціць месяц», «Ой, ды зарадзілі ягады», «Ці ня дудка мая», «Ды ўжо сонейка за лес коціцца» і «Зялёны дубочак».

Акрамя беларускіх, Міхась Забэйда-Суміцкі насьпяваў на грамафонныя кружэлкі 10 італьянскіх і 7 гішпанскіх песьняў. Усе ягоныя кружэлкі карыстаюцца ў Чэхаславаччыне вялікай папулярнасьцяй.

Зацытуем за «Нівай» орган чэхаславацкіх кампазытараў «Гудэбні розгледы», дзе чэхаславацкі крытык Бор піша з нагоды аднаго з праскіх канцэртаў Забэйды-Суміцкага:

«Міхась Забэйда ўмее пяяць песьні лепш, чымся вялічэзная бальшыня тых, хто ў нас на працягу году за гэта бярэцца Забэйдава інтэрпрэтацыя мае выражэньне й смак — і ўсё гэта ў згодзе, якая між нашымі канцэртнымі сьпевакамі сустракаецца даволі рэдка».

Аўтар зацемкі ў «Ніве» падае прапанову, каб Галоўная Ўправа Беларускага Культурна-Грамадзкага Таварыства занялася пашырэньнем кружэлак Забэйды-Суміцкага ў Польшчы, а таксама прапануе запрасіць яго туды з канцэртамі.



**УВАГА! УВАГА!**

**Падаецца да ведама новы адрыс сп. В. Кажана:**

**Mr. Vitaly KAZAN**
**183, Lawn Ave.,**
**Stamford, Conn., U.S.A.**

УВАГА! УВАГА!

Спадароў І. БАРАНА (Канада), **С. МІРОНЧЫКА** й А. САДОЎСКАГА (Аўстралія) просім падаць свае адрасы ў адміністрацыю «Бацькаўшчыны».


**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АРГЕНТЫНА:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina,** Calle Coronel Sayos 2877, Valentin Alsina, p-cia Buenos Aires.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Mr. V. Mickievič,** 47 Bd. de Bezons, Sartrouville (S. et O.).
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**